 


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 33 (964) ГОД XIX БЕЛАСТОК 18 ЖНІЎНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.


**Сустрэчы з землякамі**

## З Новай Волі ў Новую Гуту




Заданне стаяла перада мною нялёгкае — сярод 37-тысячнага калектыву рабочых і інжынераў Новай Гуты знайсці выхадцаў з Беласточчыны, нашых землякоў. Спачатку гэта здавалася мне шуканнем іголкі ў стагу сена, але неўзабаве я пераканаўся, што беласточчане там не такая ўжо і рэдкая з'ява.

У Сонечным пасёлку, адным з некалькіх жыллёвых кварталаў Новай Гуты, у той час стаялі ў поўнай квецені кучаравыя ліпы. На скверыках, у цішы і сонцы, адпачывалі дарослыя, на дзіцячых пляцоўках дзетвара ляпіла свае бабкі. Нідзе нават і знаку таго, што ў некалькіх сотнях метраў ад гэтага ўтульнага сучаснага горада бурліць працавіты дзень волата польскай металургії, сімвала сацыялістычнай прамысловасці Народнай Польшчы.

У кватэры **Мікалая і Валянціны Гайдукоў** чысціня і лад. Дванаццацігадовы Юрка на скверыку, у цені, зачытаўся прыгодніцкай кніжкай, а трохгадовы Мацейка ганяецца на веласіпедзе па асфальтавай дарожцы. Мы сядзім ля адчыненага акна.

— Што мяне прывяло ў Новую Гуту? — паўтарае маё пытанне Мікалай. — Бадай само жыццё. Бацька памёр у часе акупацыі. Засталося нас пры матцы чацвёра малых. У фронт згарэла хата. Пераехалі мы з Новай Волі ў Патоку, да бабулі. А там банда рэакцыйнага падполля на вёску напала і спаліла ўсё дашчэнту. Дзе што якое і ўхавалася ад вайны — у Патоцы ўсё загінула. Вярнуліся мы ў Новую Волю з голымі рукамі. Пабудавалі неяк хату, паволі сталі на ногі. Але гаспадарка невялічкая, занадта не разгонішся. І я падумаў: аднаму дык яшчэ сяк-так, але чацвярым на гэтым загоне не ўседзець. А тут прыязджаюць у водпуск з Новай Гуты мае нававольскія сябры Алёша Семянюк і Вася Вакуліч. Хваляць і жыццё і заробкі. Падаўся і я за імі. Быў лістапад 1960 года. Цяжкасцей з паступленнем на працу не было — прынялі адразу, накіравалі на коксавы завод.

— І як?

— Не скажу, каб лёгка было. Праз некалькі тыдняў абучэння стаў я фарміроўшчыкам каксавальных патронаў. Гарачыня, дым, газ. Спачатку думаў: папрацую год-два і вярнуся ўсё ж у Новую Волю. Але паволі ўцягнуўся ў работу, прынялі мяне ў партыю, і паехаў я ў роднае сяло толькі дзеля таго, каб ажаніцца.

Валя ўсміхаецца:

— Цяжкавата было. Два гады на прыватнай кватэры, але дасталі вось гэтую, абсталяваліся, набылі трыкатажную машыну. І да мужавых шасці-сямі тысяч у месяц стала і я дакідаць



свае тры тысячы. Ні ў чым сабе не адмаўляем: ні ў ядзе, ні ў вопратцы. Штогод ездзім на адпачынак у Шчаўніцу, Закапанэ, Крыніцу, не кажучы ўжо пра розныя экскурсіі. А тут маем і кіно і тэатр.

— Абжыліся мы ўжо ў Новай Гуце, прызнаецца Мікалай. — Прыпаў нам да сэрца і наш малады горад і яго людзі. Маем дзесяткі знаёмых і шчырых сяброў, такіх самых, як мы, прыезджых з усіх канцоў Польшчы. Металургі — гэта дружны народ.

— А ў Новую Волю заглядаеце?

— Так, ездзім, пераважна на жніво. Памагаем. Родныя таксама наведваюцца сюды к нам. Але вяртацца не збіраемся. Гаспадарыць там мой малодшы брат Аляксандр, сястра Яўгіння выйшла замуж у суседнюю вёску Пянькі і разам з мужам вядуць добрую, заможную гаспадарку, а наймяншы брат Міхал закончыў Палітэхнічны інстытут у Кракаве і цяпер працуе ў Беластоку. І так, усе мы знайшлі сваё месца ў жыцці.

Ужо пакідаючы камбінат я зайшоў у рэдакцыю завадской газеты „Голас Новай Гуты". І, знаёмячыся з гэтым вель-

(Працяг на стар. 4)

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"**

**Пра маладосць Гайнаўкі ● Пра хутар у Кабылянцы ● Мінскі радыётэхнічны інстытут ● Андрыянкі ● Партыйцы з Чаромхі ● На беластоцкай станцыі аховы раслін ● Ад зладзейства да забойства ● Весткі з Бельска, Кожына, Белавежы, Гацькоў, Семяноўкі, Дубіч, Дубяжына, Гарадка, Старога Ляўкова, Шудзялава, Зубачоў, Спічкоў, Коматаўцаў, Зубава ● Песня „Niebieska chusteczka".**



*Прыдарожныя вербы.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

**ПА СЛЯДАХ ДРУЖБЫ**




Дзе Рым, а дзе Крым... Дзе **Зялёная Гура**, а дзе горад **Віцебск...** Раздзяляе іх больш чым тысяча кіламетраў. Аднак між гэтымі гарадамі завязалася цеснае супрацоўніцтва і сардэчная дружба.

Пераканаўся я ў гэтым у час пабыўкі ў горадзе Зялёная Гура. Праўда, час быў асаблівы. Якраз праходзіў фестываль савецкай песні. Але не толькі ў песнях праяўлялася польска-савецкая дружба! Вось у самым прыгожым квартале горада, у яго цэнтры, які славіцца сваімі архітэктурнымі помнікамі, на вуліцы Свярчэўскага 31, размясцілася крама **„Наташа"**. Загадчыца яе Мар'я Майданская сказала мне, што кожны наведвальнік **„Наташы"** знойдзе для сябе нейкі цікавы, каштоўны, прыгожы і танны савецкі сувенір.

На вуліцы Герояў Вестэрплятэ змяшчаецца ў Зялёнай Гуры Міжнародны клуб кніжкі і друку, папулярны **„Эмпік"**. Тут у сваю чаргу — савецкія кніжкі і газеты, шматкаляровыя паштовыя карткі і прыгожа афармленыя альбомы з карцінамі мастацтва.

На вуліцы Вызвалення, над палацам, у якім змяшчаецца Ваяводскае праўленне Таварыства польска-савецкай дружбы, кожны вечар зіхаціць неонная рэклама: прамяністая руская Матрошка запрашае ў кафэ „Бярозка". Прызнаюся: мяне яна спакусіла.

Пасля бліноў і чайку ўзяўся я за мясцовы зялёнагурскі грамадска-літаратурны двухтыднёвік **„Надоджэ"**. Быў гэта адзін з чэрвеньскіх нумароў гэтага часопіса. І раптам прыемны сюрпрыз: **цэлая газетная калонка прысвечана беларускім сучасным пісьменнікам. Максім Танк** прадстаўлены фрагментамі з яго ўспамінаў **„Карткі календара"**, па адным вершы мелі **Рыгор Барадулін, Сяргей Панізнік, Алесь Наўроцкі** і **Данута Бічэль-Загнетава.** Пераклалі Уладзімір Слабоднік, Ян Гушча, Казімір Андрэй Яворскі і Анна Сабецкая.

Творы беларускіх пісьменнікаў даволі часта паяўляюцца на старонках зялёнагурскіх газет. Гаварылі аб гэтым **Генрык Бянькевіч** і **Мечыслаў Астроўскі** ў час польска-савецкага сімпозіума, наладжанага з нагоды **„Дзён савецкай літаратуры ў Зялёнай Гуры"**. Абодва дакладчыкі — навуковыя супрацоўнікі Зялёнагурскай вышэйшай педагагічнай школы. Вывучалі яны пераклады савецкай паэзіі і прозы, якія паяўляліся ў мясцовым друку. Чытачы зялёнагурскіх газет, як адзначылі дакладчыкі, пазнаёміліся ўжо з творамі **Міхася Калачынскага, Еўдакіі Лось, Пятруся Броўкі, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Максіма Танка, Янкі Брыля** і **Янкі Сіпакова**, а таксама і нашага **Алеся Барскага.**

Аднак у гутарках з грамадскімі дзеячамі Зялёнай Гуры найчасцей паўтаралася назва горада Віцебск. За паясненнямі звярнуўся я ў ваяводскі камітэт партыі. З інфармацыі, якую там атрымаў, вынікае, што супрацоўніцтва між Зялёнагурскім ваяводствам і Віцебскай вобласцю наладжана ўжо даўно. Абодва гарады абменьваюцца

(Працяг на стар. 2)



*Пасланцы Віцебска перад польскай меддзю на металургічным заводзе ў Глогаве.* *Фота Б. Бугеля.*

 

 

# „...ПЛЮС ФАНТАЗІЯ"



Мажліва, што чытачы „Нівы" яшчэ памятаюць карэспандэнцыю з Гродна пад загалоўкам „Агляд творчасці кіналюбіцеляў". Калі не, то скажу, што надрукавана яна ў тыднёвіку



за 17 сакавіка гэтага года. У ёй расказвалася аб выніку конкурсу кінафільмаў. Між іншым, паведамлялася, што другое месца прысуджана таксама кінастужцы А. М. Ляховіча.

Думаю, што чытачам „Нівы" будзе цікава болей даведацца пра гэтага таленавітага чалавека. Да таго ж гісторыя пра тое, як Аляксандр Міхайлавіч стаў рабіць фільмы, можа прыдацца не аднаму, маючаму да гэтага „сверб".

Не кожны, хто мае фотаапарат, патрапіць стаць праўдзівым фотааматарам. Часцей за ўсё здымаем сваіх блізкіх і прыяцеляў на экскурсіях, у водпуску ці на сямейных урачыстасцях. У гэтым можна пера-



канацца, пагартаўшы дамашні альбом.

Так пачынаў і Саша Ляховіч. Калі пры розных нагодах сфатаграфаваў брата, сястру, бацькоў, дружбакоў і суседзяў, адлажыў сваю „Смену" ў шафу. Не, яму не збрыдла здымаць. Проста не знаходзіў больш новых аб'ектаў і тэм.

Невядома чым гэта скончылася б, каб не адзін выпадак. Саша ўжо забыў пра „Смену", калі аднаго дня выпадкова заглянуў у кош з бульбай. Ад здзіўлення працёр вочы.

Не, з'ява не знікала. У кошыку ляжаў касманаўт у арыгінальным скафандры, з антэнамі на шлёме.

Саша схапіў апарат і зрабіў здымак „картафлянага касманаўта". Фотаздымак выслаў у Маскву на акурат аб'яўлены конкурс.

Хутка атрымаў адказ. Яго здымак не толькі быў прэміраваны, але зацікавіў першага касманаўта на свеце, які прыслаў Сашы пісьмо. Юрый Гагарын павіншаваў хлопца за ўменне бачыць акружаючы свет. Сёння гэты здымак знаходзіцца ў музеі імя Ю. Гагарына ў Зорным гарадку.

Ад таго часу Аляксандр не расстаецца з фотаапаратам. Не робіць больш пазованых, статычных здымкаў родных і блізкіх, не трактуе экскурсіі ці водпуску як адзіную мажлівасць для фатаграфавання. Цяпер ён вельмі ўважліва глядзіць на ўсё, што яго акружае і заўсёды знаходзіць штосьці нязвыклае, прыгожае, цікавае, вартае „увекавечання".

Глянем на свет вачыма Аляксандра Ляховіча... Вось агурок... Ці не нагадвае ён рыбы наліма? Ну, а хто не бачыў ядавітую змяю кобру, таму нялёгка будзе адрозніць яе ад ляснога кораня. А фантастычных і рэальных „звяроў" А. Ляховіч мае цэлую калекцыю. Чым гэта не алень? А вось гэты сук паваленага дрэва. Як жа ён напамінае морду бульдога.

Саша мае вялікую калекцыю здымкаў, прадстаўляючых дзівы прыроды. Усім, хто пытае яго, як рабіць такія цікавыя здымкі, ён адказвае: „...адкрытыя вочы, плюс... уяўленне".

Сёння А. Ляховіча знаюць па-



за мяжой рэспублікі. І не толькі як фотааматара. Яго кінастужкі атрымлівалі першыя прэміі на ўсесаюзных конкурсах. Фільм пра лебядзей закупіла цэнтральнае тэлебачанне Масквы. Здымаў ён яго на працягу 7—8 месяцаў. Першыя кадры зрабіў у той момант, калі белыя птушкі вярталіся з цёплых краін, а астатнія, калі маладыя і старыя лебедзі паднімаюцца і адлятаюць у вырай

Другая кінастужка была не менш цікавай. Даведаўся Аляксандр, што адзін аграном злавіў ваўчаня і цяпер гадуе яго. Саша адшукаў гэтага чалавека ў Астравецкім раёне Гродзенскай вобласці. Воўк аказаўся здольным „артыстам", і Аляксандр зняў добры фільм паводле свайго сцэнарыя. А. Ляховіч не расстаецца з кінакамерай. Але не забывае і пра фотаапарат, які прывёў яго ў кінамастацтва.

**Ул. Малашкевіч**
Фота **А. Ляховіча**

# ПРАЦАВІТАСЦЬ І САЛІДНАСЦЬ — КРЫНІЦА ПОСПЕХУ

У гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку доўгі час не выходзіў адпаведны ўзровень мастацкай самадзейнасці. Прыходзілі і адыходзілі ўдзельнікі, часта мяняўся кіраўнік хору і аркестра. Рэпетыцыі быццам бы і адбываліся (хоць надта нерэгулярна), бралі грошы кіраўнікі, але каб падрыхтаваць якую-колечы з сэнсам мастацкую праграму і выступіць з ёю хаця б на некалькі канцэртах — такога, на жаль, не было.

Гэты стан летаргу змяніўся карэнным чынам, калі ад 1 снежня мінулага года хорам і аркестрам стала кіраваць мгр **Эльжбета Жукоўская.** Яна — выхаванка сярэдняй музычнай школы ў Беластоку, доўгі час працавала піяністам у Беластоцкім сімфанічным аркестры. Некалькі год таму назад закончыла аддзяленне музычнага выхавання ў Вышэйшай музычнай школе ў Варшаве, па класу фартэпіяна займалася ў праф. К. Вардзіхоўскай, а па галоўнаму прадмету — дырыжорству — у З. Урбаный-Сверскай, якая цяпер з'яўляецца дырыжорам Вроцлаўскай оперы. У Э. Жукоўскай значны вопыт працы з самадзейнымі калектывамі.

На працягу некалькіх месяцаў новы кіраўнік хору і аркестра здолела не толькі падрыхтаваць багатую і разнастайную двухгадзінную праграму і ўжо ў сакавіку даць дасканалы канцэрт, але арганізаваць яшчэ адзін інструментальны калектыў, згуртаваць у хоры і аркестры каля 30 асоб, а потым даць адзінаццаць выступленняў у Беластоку, Кузніцы, Ялоўцы, Літвінавічах, Саках, Рыбаках, Орлі, Калодне. І ўсюды калектыў песні і танца беластоцкага гарадскога аддзела БГКТ людзі прымаюць з асаблівай цеплынёй, многія нумары яму прыходзіцца выконваць на біс, слухачы выказваюць падзяку за дастаўленую прыемнасць, запрашаюць на наступныя выступленні.

— У мяне ніколі не было цяжкасцей у працы з самадзейнікамі, — заўважае Э. Жукоўская. — Заўсёды я імкнуся ўнікнуць у іх клопаты, дапамагчы, параіць. Люблю дзейнічаць сама: пераконваць, прасіць, уладкоўваць. І ніколі не адступаю ад намечанага сабе задання — мушу яго выканаць якой бы то ні было цаною. Абураюць мяне паступкі тых кіраўнікоў самадзейных мастацкіх калектываў, якія да сваіх абавязкаў адносяцца абыякава і кажуць, што гэта іх дадатковая „хаўтура". Гэта ж яўныя кпіны з самадзейнікаў, людзей, якія прысвячаюць свой вольны час мастацтву.

— Як вам працуецца з нашым калектывам?

— Вельмі добра. Па-першае, у нашым калектыве гуртуюцца дысцыплінаваныя людзі, шчыра закаханыя ў песню і музыку. Па-другое, у Галоўным праўленні і ў гарадскім аддзеле БГКТ пануе вельмі прыемная атмасфера для працы з самадзейнікамі: ніхто не садзіць носа не ў свае справы, адчуваецца поўны давер да мяне і да маёй працы, калі трэба — заўсёды ёсць дапамога. З нашым калектывам перажываем многа і цяжкіх і радасных хвілін. Гэтыя першыя, калі нешта не выйдзе так, як мы б ха-



целі, а другія — вядома, пасля ўдачных канцэртаў. Нашыя самадзейнікі — людзі розных узростаў, але ўсе яны самаахвярныя, асабліва Люба Гаўрылюк і яе дачка Аля — жамчужынка хору.

— Якія планы на будучыню?

— Пасля летніх вакацый — перш за ўсё далейшая праца над удасканальваннем нашага выканаўчага майстэрства, новыя дуэты, у тым ліку з жаночымі і мужчынскімі галасамі. Затым шырокая праца над беларускімі песнямі і музыкай, каб іх было як мага болей у нашай праграме. Дзеля гэтага працую цяпер над музыкай да слоў некаторых вершаў В. Шведа. Зразумела, далейшае павелічэнне калектыву і адразу, з восені ўжо, падрыхтовачная праца да конкурсаў беларускай песні і савецкай песні.

— Вашыя пажаданні.

— Каб лепш выходзілі нашыя выступленні на вольным паветры. Ранейшымі мы ўсё яшчэ незадаволены. А ва ўсім іншым — каб было не горш, як дагэтуль.

А мне хочацца дадаць: кожны чалавек сваёй ахвярнай працай і саліднасцю выкоўвае вакол сябе атмасферу пашаны і любві. Сваёй сардэчнасцю, працавітасцю і талентам гэтага дабілася Э. Жукоўская. Пажадайма ж ёй і ўсяму калектыву далейшых поспехаў.

**Гутарыў Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

# ◆ НА ◆ КРЫНШЧЫНЕ

У Крынкаўскай гміне, начальнікам якой з'яўляецца В. Пратасевіч, нямала добрых гаспадароў. Некаторыя з іх у сувязі з юбілеем нашай дзяржавы былі ўзнагароджаны медалямі 30-годдзя ПНР. Гэта Яўген Жамойда з Паўднёвага Вострава (радны, старшыня сельскагаспадарчай камісіі), Станіслаў Глябовіч з Шаціл (перадавы гаспадар), а таксама два солтысы — Іван Паддубік з Цюміч і Яўген Бобка з Крушынян.

Добрым прапагандыстам мінеральных угнаенняў у вёсцы лічыцца солтыс з вёскі Гураны — Францішак Антановіч, які таксама праявіў ініцыятыву пры рамонце дарогі да аўтобуснай лініі ПКС Саколка-Гураны. У гміне Крынкі за перыяд новай гміннай адміністрацыі выканана грамадскай працы на 750 тысяч зл.

— Рамонту дарог мы прысвячаем многа ўвагі, — гаварыў начальнік гміны Анатоль Кірэйчук. — Гэта дапамож уладкаваць справы, звязаныя з давозам дзяцей у зборную школу ў Крушынянах і ў будучую гмінную школу ў Крынках. У Крушынянах у гэтай галіне многа ўжо зроблена. Там ужо палепшаны дарогі, па якіх спецыяльнымі аўтобуснымі прычэпамі, трактарамі мясцовага сельскагаспадарчага гуртка возяць дзяцей у зборную школу з усіх навакольных вёсак.

Нельга не сказаць і аб тым, што на пляцы крушынянскай школы пабудаваны сучасныя памяшканні для настаўнікаў; і тут таксама не абыйшлося без грамадскай працы.

У крынкаўскай школе зроблен ужо капітальны рамонт за суму 3 млн. злотых, але будзе яна яшчэ больш разбудавана, на гэта прызначана 1,5 млн. зл. Заканчэнне разбудовы гміннай школы прадбачана да пачатку 1975/76 навучальнага года.

У Крынках будуецца рэкрэацыйны спартыўны цэнтр. Будова яго была запачаткавана грамадскім чынам. 22 ліпеня аддадзены быў у карыстанне вялікі басейн, плошча якога дасягае амаль 2 тыс. квадратных метраў. Вада там чыстая, крынічная, нічым не забруджаная. Крыніца рачушкі Крынка знаходзіцца непадалёку ад басейна.

У другім этапе будовы спартыўнага цэнтра прадбачана будова пляцовак і розных памяшканняў для спартыўных іграў. Кошт гэтага аб'екта складзе суму 2,7 млн. зл. Павінна быць выканана грамадская праца на 50 прац. гэтай сумы.

Спартыўна-рэкрэацыйным цэнтрам ганарацца жыхары Крынак. Ужо цяпер прыязджае сюды шмат моладзі з навакольных вёсак, каб пакупацца ў чыстай крынкаўскай вадзе.

**М. Хмялеўскі**



 

# Новабудоўля на 30-годдзе ПНР

29 ліпеня г.г., амаль у дзень XXX гадавіны вызвалення Беластока, на 9 месяцаў раней, чым прадбачвалася, быў аддадзены ў карыстанне новы будынак Польскага радыё ў Беластоку.

Беластоцкаму радыё ўжо амаль 22 гады. Калі ў 1953 годзе яго гадавая праграма складалася з 210 гадзін, дык цяпер мясцовая праграма складаецца з 700 гадзін, а 160 гадзін у год Беластоцкае радыё выступае на агульнапольскай антэне.

Новы будынак радыё ў 10 разоў большы ад папярэдняга. Толькі яго найбольшая студыя раўняецца плошчы ўсяго старога будынка. Будынак абсталяваны сучаснай апаратурай. Ёсць тут некалькі меншых студый: для апрацоўкі слоўна-музычных перадач і для лектараў.

На ўрачыстым адкрыцці новага будынка Польскага радыё ў Беластоку прысутнічалі сакратар ЦК ПАРП Ежы Лукашэвіч, І сакратар ВК ПАРП Здзіслаў Куроўскі, намеснік старшыні па справах радыё і тэлебачання Ян Мяткоўскі, прадстаўнікі палітычных і грамадскіх арганізацый, Ваяводскага і Гарадскога ўпраўленняў, будаўнікі.

Будаўнікі і работнікі радыё атрымалі дзяржаўныя ўзнагароды.

**Ада Чэчуга**
фота **З. Зарэмбы**



НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

## Каманда з Ляўкова



У апошні час вядомай стала на Гайнаўшчыне футбольная каманда з Ляўкова. Іграе яна таксама ў ручны мяч. Нядаўна сыграла яна матч з камандай з Семяноўкі і перамагла з лікам 6:4. Выступала ў складзе: Віктар Скепка, Юры Барташук, Яўген Барэчка, Міраслаў Цялушэцкі, Віктар Кабаць, Раман Барэчка і Славамір Навіцкі (варатар).

Тэкст і фота **Я. Ц.**

(Працяг са стар. 1)

## З Новай Волі ў Новую Гуту

мі цікавым часопісам, зусім выпадкова наткнуўся на такую вось нататку ў адным з яго нумароў:

„У гэтым годзе добра стартаваў калектыў кокса-хімічнага завода. Рытмічна выконвае ён вытворчыя заданні, асабліва многа намаганняў прыкладвае, каб поўнасцю абяспечыць сыравінай Вялікія Печы. Справа не толькі ў колькасці (хоць і гэта надта важна), але таксама і ў высокай якасці доменнага коксу, ва ўтрыманні ўсіх яго паказчыкаў. Супольнай ахвярнай працай усяго калектыву кокса-хімічнага завода пастаўленыя перад ім заданні паспяхова выконваюцца... Сёння прадстаўляем групу перадавых каксаўнікоў Гуты імя Леніна...“

І сярод іншых я знайшоў прозвішча **Мікалая Гайдука,** а побач — яго здымак. Гэта ён — актыўны член брыгады сацыялістычнай працы, узнагароджаны Сярэбраным Крыжам Заслугі — былы вясковы хлапчук з вёскі Новая Воля, што ў Беластоцкім павеце.

**Ігнат Снарскі**
Фота аўтара

## НАШ СІМПАТЫК

Станіслава Астроўская працуе прадаўшчыцай у кіёску „Рух“ у Крынках Сакольскага павету. Штодзень прадае яна ў сярэднім каля двухсот экземпляраў газет і часопісаў. Мае каля ста пастаянных пакупнікоў прэсы, у тым ліку больш дзесяці — нашага беларускага тыднёвіка „Ніва“.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



## ТАК БЫВАЕ...

## ЯК ЖЫЦЬ?

Ёля нарадзіла дачку, калі не было ёй яшчэ васемнаццаці гадоў. Назвала яе Бажэнкай. Бацькам быў студэнт, які, калі даведаўся аб усім, адразу некуды з'ехаў. Ёля не стала яго шукаць. Які быў бы з яго бацька? Найперш дабілася таго, што малую Бажэнку пасялілі ў доме малых дзяцей. Іншага выйсця не бачыла. Родная маці выраклася яе.

Неўзабаве пра тайну Ёлі ведалі амаль усе ў яе родным мястэчку. Не магла яна тут заставацца. Паехала ў другое ваяводства, тут пасялілася і знайшла пасаду краўчыхі. Спакайнейшым стала яе жыццё. Нарэшце мела ўласныя грошы. Магла паехаць наведаць дачушку, завезці ёй ласункаў, пагушкаць яе на руках. Малая чакала гэтых рэдкіх, але прыемных сустрэч з жанчынай, якая здалася ёй самай ветлівай і добрай на гэтым свеце.

Бажэнка расла. Не магла крыўдаваць на такі, а не іншы свой лёс. Іншага ж жыцця яна не ведала. Не разумела, чаму тут, дзе многа такіх, як яна сама, не ўсе дарослыя жанчыны хочуць узяць яе на рукі, пайсці ў агародчык, у якім поўна прыгожых кветак, дзе ўсё такое зялёнае, прывабнае, дзе птушкі гойдаюцца на расцвіўшых галінках і шчабечуць бесклапотна.

Дзяўчынка была, як здавалася яе маці, падобная да таго студэнта. Гэта трывожыла душу маладой, пакрыўджанай лёсам маці. Добра, што пакрысе яна забывалася аб тым палахліўцу, нягодным звання бацькі. Адыходзілі благія думкі. Вярталася ахвота да жыцця.

...Аднойчы на рабоце адзін з мужчын пачаў заляцацца да яе. Неяк настойліва ды нахабна. Дзяўчына, на долю якой выпала столькі перажыць, спачатку не звяртала на гэта ўвагі. Папрасіла адыйсціся, не замінаць у працы. Але тут, як на бяду, сталі машыны: відаць спыніла ход электрастанцыя. Тады залётнік стаў больш непаслухмяны. Калі неўпрыкмет ушчыпнуў, Ёля ўдарыла нахабніка па твары. Той скрывіўся, быццам прызнаючы сваю віну, а пасля сказаў, смеючыся:

— Байструка гадуе, то, пэўна, на мужчын ласая... Навошта прыкідацца. Гэта не ў нас, паненачка. Цыцатае тота ды наогул...

Дзяўчына адыйшлася ўбок. Заплакала. Дык вось чаму так прыдзірліва глядзела на яе бухгалтарша! Чакала, што сяброўкі заступяцца, але тыя нечакана для яе заліліся толькі смехам. Відаць, да спадобы было ім гэта...

Ёля з тае пары не мела адбою ад „кавалераў“. Усе яны былі для яе ненавіснымі, нахальнымі, грубымі. Лезлі ўсюды з рукамі. Дзяўчына спачатку пакорна ўступала, зыходзіла ўбок, прасіла не чапаць. Нават намерылася ісці са скаргай да дырэктара. Але калі ўспомніла, як неабыякава адносіцца ён да яе, як сыпле кампліменты і прапануе часцей заходзіць у кабінет або прагулку машынай, не ведала, што рабіць. Пакінула адно прадпрыемства, але іншую работу нялёгка было знайсці. Да таго сяброўка, з якой была на адной кватэры, выявіла ўсю тайну гаспадыні, і тая прагнала яе з дому. „А то яшчэ чаго добрага возьме ды дзіця сюды прывалачэ“, — сказала.

Сядзела Ёля на лавачцы ў гарадскім парку і ўсё думала. А думак назбіралася шмат. Мінула два гады, як у гарадскім упраўленні абяцалі ёй аднаасабовы пакойчык, у які б магла забраць маленькую Бажэну. А тая так і цягнулася да маці... Але засталося толькі на абяцанках. Чаму чалавеку так цяжка выйсці на правільную дарогу? Чаму такі яе дзявочы лёс? Як жыць далей? А жыць жа трэба. Ёсць дзеля каго. Хіба яна не маці? Падумаць толькі, якое гэта высакароднае слова — маці. Не, яна ўсё павінна яшчэ раз разважыць, прадумаць. Панясе сваю бяду людзям напаказ. Мо не ўсе абсмяюць?

Ёля ўстала, паправіла каўнерык плашча. Рашыла ехаць у той горад, дзе закончыла школу і дзе прапанавалі ёй працу на новым прадпрыемстве. Там чакала яе бездапаможная яшчэ дачушка. Мо ўсё-такі разам будзе лягчэй?..

Маладая, прыгожая дзяўчына накіравалася на вакзал. У яе ўзнікла канчатковае рашэнне — ехаць адсюль неадкладна. Яна ішла ля клумбаў, на якіх цвілі веснавыя кветкі і, здавалася, усміхаліся да яе. Высока ў небе ляцелі з выраю буслы. Выглянула скрытае за хмарамі сонца і акрыліла дзявочую паходку.

**Я. Цялушэцкі**

Беларуская літаратура

Аляксандар Барычэўскі

## Нашаніўская пара

**МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА XIII**

**Грамадская лірыка**. Разгледзім апошнія вершы з грамадскага цыкла ў паэзіі Багдановіча. Да гэтых вершаў належаць „Народ, Беларускі Народ!“, „Нашых дзядоў душылі абшары лясоў“, „Устань навальніца, мкні нанова“, „Рушымся, браццы, хутчэй“.

Першы верш гэтага цыкла „Народ, Беларускі Народ“ — гэта зварот паэта, апеляцыя да народу. Багдановіч з болем гаворыць аб цемры беларускага народу, аб яго прыгнечанасці, аб яго абыякавасці да роднай мовы і аб яго палітычнай неадукаванасці. Ідэя гэтага верша як бы пярэчыць ідэі вершаў „Пан і мужык“ або другой частцы верша „З песняў беларускага мужыка“. Там паэт гаварыў аб тым, што мужык разбіраецца, хто яго друг і хто яго вораг, тут, у вершы „Народ, Беларускі Народ“ паэт аднімае ў народа здольнасць правільна ацэньваць віноўнікаў свайго зняволення. У творы гэтым паэт абвінавачвае аднак і прыгнятальнікаў беларускага народа, якія змушаюць беларуса крычаць „Дзякуй!“ тады, калі ён павінен крычаць „Ратуйце!“. Цікава і тое, што ў адрозненні ад папярэдніх вершаў, у якіх амаль заўсёды Багдановіч гаворыць аб беларускім селяніне, тут гаворыць ён аб усім беларускім народзе, аб нацыі. Быць можа, што верш гэты лепш было б аднесці да лірыкі нацыянальнай, чым да лірыкі грамадскай. Зрэшты, матывы грамадскі і нацыянальны застаюцца ў творчасці Багдановіча наогул у арганічнай сувязі.

Тры наступныя вершы Багдановіча трэба, несумненна, аднесці да грамадскай лірыкі і змагання. Характарызуе іх дынаміка і аптымістычная вера ў будучыню. І так, у вершы „Нашых дзядоў душылі абшары лясоў“ Багдановіч заклікае суайчыннікаў браць прыклад з былых пакаленняў, з іх упартасці і іх барацьбы. Знешне верш датычыць толькі змагання з прыродай, аднак у апошняй страфе паэт надае гэтаму змаганню шырэйшы актуальны сэнс:

З гэтых дзядоў суровых прыклад нам бы ўзяць —
Не хіліцца з бяды, не пужацца агня,
Бо мы толькі тады дачакаемся дня,
Калі нас не здалее змаганне злякаць.

Як жа далёка адышоў настрой гэтага верша ад настрою твораў „Краю мой родны, як выкляты богам“, „Над магілай мужыка“, ці першай часткі верша „З песняў беларускага мужыка“. Няма ў ім і следу прыгнечанасці, безнадзейнасці і плачу, але ёсць бадзёрасць, дынаміка і сіла.

Рысы гэтыя з яшчэ большай яскравасцю праявіліся ў творы „Устань, навальніца, мкні нанова“. Стылістычныя сродкі верша набліжаюць яго да рамантычнай паэтыкі. Калі шукаць аналогіі ў беларускай літаратуры, дык можна тут бачыць пэўнае падабенства з рэвалюцыйнай лірыкай Цёткі. Верш Багдановіча мае характар успененай песні — песні барацьбы.

Устань, навальніца, мкні нанова,
Узвый, вецер, з ёй заадно!
У віхры ўляціць палова,
Пакіне чыстае зярно.
Удар, цыклон, удар на мора,
Цалуй яго ў глухое дно,
Усплясні ваду — і перлаў горы
На бераг выкіне яно.

Можам гаварыць аб пэўнай адцягненасці і аб абстрактнасці гэтага твора. Можна было б нават даказваць, што гэты твор прыродаапісальны і пазбаўлены грамадскага падтэксту. Такіх сумненняў не можа быць пры вершы „Рушымся, браццы, хутчэй“.

Рушымся, браццы, хутчэй
У бой з жыццём, пакідаючы жах,
Крыкі пужлівых людзей
Не стрымаюць хай бітвы размах...
Проці цячэння вады
Зможа толькі жывое паплыць,
Хвалі ракі заўзегды
Тое цягнуць, што скончыла жыць.

З прыведзеных прыкладаў бачым, што паэт не толькі плакаў „над магілай мужыка“, але і клікаў яго „у бой з жыццём“. На нашу думку, у грамадскай лірыцы Багдановіча больш аптымізму і надзеі, чым песімізму і бязвер'я.

 

## Сардэчныя тайны

**Дарагое „Сэрцайка“!**

Ужо два гады хаджу я з Міркам. Пакахалі мы адзін аднаго, калі былі яшчэ вучнямі. Вучыліся ў эканамічным тэхнікуме. Мірэк ужо год працуе, а я закончыла вучобу ў гэтым годзе. Канец навучальнага года быў для мяне вельмі цяжкі, але не з увагі на навуку. Пад канец года я зацяжарыла. Не сказала аб гэтым нікому, толькі аднаму Мірку. Перажывала страшэнна. Бацькі бачылі, што са мной штосьці нядобрае дзеецца. Больш за ўсіх мама непакоілася. Я аднак не прызналася, пакуль не закончыўся школьны год. А тады аб усім сказала. Мірэк сказаў таксама сваёй маці. Бяды было нямала. Тым больш, што Мірэк якраз паехаў на два месяцы ў камандзіроўку. Бацькі гэтаму не верылі, думалі, што спецыяльна ўцёк. Маці Мірка гаварыла наўкола, што не дапусціць да нашага вяселля. Аднак бура супакоілася, хаця толькі ў маім доме, калі Мірэк вярнуўся і адразу прыйшоў да мяне. Пагаварылі тады ўжо спакойна, бацькі нават абяцалі дапамагчы, калі мы пажэнімся. Аставалася пагаварыць з бацькамі Мірка. Я баялася ім на вочы паказацца, але іншага выхаду не было. Мы пайшлі. Маці Мірка загадала, каб я пазбылася цяжарнасці, а тады ён са мной ажэніцца, бо людзі смяяцца будуць, калі хутка пасля шлюбу дзіця народзіцца. Я тлумачыла, што ўжо чатыры месяцы, што ўжо позна. Але яна стаяла на сваім. Мірэк аднак апошняе слова ў гэтай справе мне аставіў. Так і вярнуліся мы дамоў. Бацькам яшчэ аб гэтым не сказала. Парай, „Сэрцайка“ як найхутчэй, як мне паступіць?

**Лена з Бельшчыны**

**Лена!** Ні ў якім выпадку! Па-першае, ужо позна, каб пазбыцца цяжарнасці. Можна гэта зрабіць у лекара толькі да трох месяцаў. Цяпер ты рызыкуеш жыццём. Па-другое, пазбыўшыся першага дзіцяці, можна ўжо ніколі больш дзяцей не мець. Ты неадкладна скажы аб намове Міркавай маці сваім бацькам. Выясні і Мірку аб небяспецы. Далей няма чаго чакаць. Трэба ўзяць шлюб, не зважаючы на тое, што гэта не па густу Міркавай маці. Пашуміць і супакоіцца. Так найчасцей бывае. А ты будзеш здаровая і шчаслівая.

**„Сэрцайка“**

## Беларускія кнігі

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

Колас Якуб, **Сымон-музыка,** 1972, стар. 256, цана 13 зл. 20 гр.

Шэдэўр беларускай паэзіі ў элегантным выданні з густоўнымі каляровымі ілюстрацыямі вядомага беларускага мастака Б. Заборава.

Мележ Іван, **Подых навальніцы,** 1973, стар. 512, цана 9 зл. 40 гр.

Гістарычны раман, прысвечаны падзеям на Беларусі ў канцы дваццатых гадоў нашага стагоддзя. У цэнтры твора постаць камуніста-ленінца Апейкі. „Подых навальніцы“ з'яўляецца працягам папярэдняга рамана І. Мележа „Людзі на балоце“. За абодва раманы пастановай ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР аўтару прысвоена Ленінская Прэмія за 1972 год.

Арабей Лідзія, **Іскры ў папялішчы,** 1970, стар. 364, цана 6 зл.

Раман, падзеі якога адбываюцца ў першы год вайны ў акупіраваным нямецкімі фашыстамі Мінску. Жыццё савецкіх людзей ва ўмовах акупацыі, барацьба падпольшчыкаў і партызан — вось асноўныя тэмы твора.

**П'есы,** 1973, стар. 336, цана 5 зл. 10 гр.

Зборнік найбольш вядомых п'ес беларускіх драматургаў, што былі напісаны і пастаўлены ў тэатрах СССР на працягу нядаўніх год. У зборнік уваходзяць: „Брэсцкая крэпасць“ К. Губарэвіча, „Канстанцін Заслонаў“ А. Маўзона, „Над хвалямі Серабранкі“ І. Козела, „Лявоніха на арбіце“ А. Макаёнка і „Не верце цішыні“ І. Шамякіна. Прадмова „Літаратурнае жыццё п'есы“ А. Сабалеўскага.

Шэўчык Н. І., **Практычны матэрыял па беларускай мове ў IV—VI класах,** 1973, стар. 256, цана 3 зл. 60 гр.

Дасканалы выбар самых разнастайных практыкаванняў з усіх раздзелаў навукі аб мове, у тым таксама і па лексіцы. Вельмі карысны дапаможнік і вучням і настаўнікам.

Кнігарня імпартных выданняў у Беластоку ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем (з далучэннем рахунку, калі гэта патрэбна пакупніку). Запатрабаванні кіруйце па адрасу: „Dom Książki", Białystok, ul. Kilińskiego 10.

(мг)

## Ці ведаеце што...

...у Польшчы цяпер пражывае 33,5 млн. жыхароў?

...на кожных 100 мужчын у Польшчы выпадае 105 жанчын?

...у 836 гарадах пражывае 54% усяго польскага насельніцтва?

...на вёсцы ў нашай дзяржаве ў мінулым годзе нарадзілася на 28 тысяч дзяцей больш, чым у горадзе?

...у Польшчы існуе 76 цукровых заводаў, у бліжэйшыя гады будуць пабудаваны два новыя заводы, а прыдалося б іх яшчэ з дзесяць.

(ця)

## Этнаграфічныя здымкі



*Вечная цішыня. Лясная капліца ў ваколіцы вёскі Новая Воля Беластоцкага павету.*

*Фота М. Гайдука.*

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: А. патрабаваў праз суд, каб В. аддаў яму палоску зямлі, прылягаючую да яго сялібы. Пакліканы судом эксперт устанавіў мяжу так, што яна праходзіла праз частку будынкаў В. Суд, абапіраючыся на экспертызу, загадаў В. аддаць А. палоску згодна з мяжой, устаноўленай экспертам. Рашэнне суда ўправамоцнілася. Праз некалькі месяцаў В. з дапамогай геадэзіста і на аснове камасацыйнага плана ўстанавіў, што папярэдняя мяжа была правільная, а патрабаванні А. беспадстаўныя. Тым часам А., абапіраючыся на правамоцнае рашэнне, патрабуе разабраць частку будынка, якая, згодна з рашэннем суда, апынулася на яго баку. Што можна ў гэтым выпадку зрабіць, каб унікнуць экзекуцыі?

АДКАЗ: Састаўленая ў час камасацыі карта зямлі з'яўляецца фактам, які нельга замяніць ніякімі іншымі, у тым ліку і экспертызай. Паколькі камасацыйная карта не была вядома суду ў той час, калі разглядалася справа, зацікаўленай асобе, г.зн. у даным выпадку В. прыслугоўвае права патрабаваць аднаўлення справы. Калі справу разглядаў толькі павятовы суд, просьбу аб аднаўленні справы трэба падаць у той самы павятовы суд. Калі ж рашэнне было абжалавана і справу вырашыў канчаткова ваяводскі суд, просьбу трэба накіраваць у гэты суд. Просьбу трэба падаць на працягу аднаго месяца ад дня, калі было ўстаноўлена, што, згодна з камасацыйнай картай, мяжа праходзіла інакш, чым устаноўлена судом.

## Куток практычных ведаў




### ДЗІЦЯЧЫ СОН

На двары лета, і часта позним вечарам дзіцяці нельга загнаць у хату. Цяжка яму растлумачыць, што ўжо пара ісці спаць. Ці добра мы робім, адымаючы ў дзіцяці такія каштоўныя хвіліны сну?

Сон з'яўляецца неабходным для сістэматычнай і рэгулярнай рэгенерацыі нервовай сістэмы. Нявыспаўшаеся дзіця не будзе мець добрага стану нерваў. Менавіта таму нельга скарачаць дзіцячага адпачынку нават коштам свежага паветра.

І летам і зімою дзіця павінна спаць дастатковую для яго колькасць гадзін. Класці яго трэба па меры магчымасці рэгулярна. Дактары гавораць, што дзіця, якое кладзецца спаць рэгулярна, спіць зазвычай спакойна, не ўсхопліваецца, не кідаецца ў сне, не мае кашмарных сноў.

Часта здараецца, што дзеці цяжка засынаюць, гавораць праз сон, будзяцца з крыкам альбо скрыгочуць зубамі. Гэта сімптомы нейкага псіхічнага напружання, альбо нават хваробы ці павышанай тэмпературы.

Трэба праверыць, у чым тут справа. Калі мы ўжо ведаем, што дзіця не хворае, то можа яно занадта весела гуляла перад сном? А можа яно мела нейкія перажыванні ў школе, а можа проста баіцца клясоўкі, якая мае адбыцца заўтра?

Даведаўшыся аб прычыне, трэба спакойным, чулым словам супакоіць дзіця.

Ці тады, калі дзіця гаворыць праз сон, альбо скрыгоча зубамі, трэба яго адразу будзіць? Не варта, гэта можа толькі павялічыць яго нервовае напружанне. Але, калі гэтакія сімптомы паўтараюцца часта, неабходна абавязкова параіцца з доктарам. Калі, напрыклад, дзіцяці нешта страшнае прысніцца і яно будзіцца з крыкам, трэба яго супакоіць і запытацца, чаму яно крычала, сказаць, што ўсё ў парадку, што нічога дрэннага не здарылася, пасля пагаварыць з ім і запытаць, чаму яно крычала, адным словам, трэба зрабіць вывад, што было прычынай яго страху і боязні. Асабліва добра было б пагаварыць з ім аб гэтым днём, паколькі многія дзеці баяцца цемнаты, а днём можна яму растлумачыць усё ў спакойнай атмасферы.

І яшчэ адно пытанне. Сярод матак няма згоды. Адны лічаць, што дзеці павінны ўставаць рэгулярна, іншыя ж пазваляюць дзецям спаць у вольныя хвіліны, колькі ім хочацца. Мае рацыю другая група. Калі спяць, значыць сон ім патрэбны. Можна аднак смела выкідаць з ложка дзяцей, якія любяць проста паваляцца, не сплючы.

**Эскулап**

## КАР'ЕРА БЕЛАВЕЖСКІХ МЫШЭЙ



Мышы... Колькі іх, шэрых ці рудых, меншых ці большых бачым мы ў свіране, клуні, пад ляшкамі ў полі, на лузе або ў лесе. Шмыгне нам такая пад нагамі ды скрыецца недзе ў сваёй норцы. І галасы ў іх розныя: адны сабе папіскваюць, а другія сядзяць ціха, бы... мышы пад венікам. Усе мы перакананы, што апрача шкоды, дык карысці з іх ніякай, хіба што кату спажыва. Але аказваецца, што нашыя веды пра гэтыя рухлівыя стварэнні надта ж абмежаваны, а аб іх прыгоднасці для чалавека, асабліва для яго здароўя, мы амаль нічога не ведаем. А сучасная навука прарочыць некаторым відам лясных мышэй вялікую будучыню ў барацьбе чалавека з рознымі, нават цяжкімі і небяспечнымі хваробамі.

Нядаўна мы наведалі Навукова-даследчы інстытут млекакормячых Польскай акадэміі навук у Белавежы.

— На самай справе палявыя і лясныя мышы — гэта шкоднікі, якія прыносяць многа страт сельскай і лясной гаспадаркам, — заўважае дырэктар інстытута праф. **Здзіслаў Пуцэк.** — Але вучоных здаўна займала вялікая здольнасць мышэй да хуткага размнажэння і непераборлівасць у ядзе ды малая патрабавальнасць да жыццёвых умоў. Вядома, што паскоранае развіццё біёлага-медыцынскіх навук патрабуе аграмаднай колькасці падвопытных жывёлаў, на якіх можна было б праводзіць розныя доследы, правяраць уздзеянне на жывыя арганізмы новых лякарстваў, прышчэпак, разнастайных хімічных рэчываў, якія ўсё часцей ужываюцца ў спажывецкай прамысловасці, сельскай і хатняй гаспадарцы. Бо ніколі невядома, ці новае лякарства або хімічнае рэчыва не дасць шкодных уздзеянняў на людскі арганізм, скажам, недзе ў трэцім, сёмым ці трыццатым пакаленні. І так, каб даследаваць дакладна прычыны і развіццё шэрагу захворванняў чалавека і ўздзеянне на іх лекавых сродкаў, таксама патрабуецца многа падвопытных жывёлаў, ды не аднаго, часам дзесяткаў пакаленняў. І ўсё гэта трэба зрабіць хутка, на вялікай колькасці прыкладаў і, па меры магчымасці, невялікім коштам. І вось, вывучаючы багаты жывёльны свет Белавежскай пушчы, мы адкрылі, што гэтым патрабаванням адпавядаюць некаторыя віды лясных мышэй — норніца рудая (рыжая палёўка), норнік буры (цёмная палёўка), а таксама стэповы лемінг (стэповая пяструшка), які мы атрымалі ад нашых калегаў, савецкіх вучоных з Маскоўскага універсітэта.

— Які адрэзак з гэтых абшырных доследаў выпадае на долю вашага інстытута?

— Перш за ўсё мы ўсебакова вывучылі гэтыя і некалькі іншых відаў лясных грызуноў, іх жыццё, ежу, жыллё, фізіялогію, паводзіны, размнажэнне і магчымасці гадоўлі. Затым гадуем чыстыя генетычныя лініі гэтых звяркоў, г. зн. выводзім на працягу некалькіх дзесяткаў пакаленняў абсалютна чысты генетычна матэрыял. Затым дастаўляем выспецыялізаваным навуковым інстытутам у Польшчы і па-за яе межамі поўную навуковую характарыстыку гэтых жывёлаў і племянны матэрыял для расплоду.

— Якія хваробы і іх лячэнне былі правераны або можа цяпер правяраюцца на вашых жывёлах?

— На нашай рыжай палёўцы Інстытут туберкулёзу ў Варшаве правярае прышчэпкі супраць сухотаў (грузліцы). Атрымоўвае вельмі добрыя вынікі. На гэтым жа звярку праводзяцца вірусалагічныя доследы ў Польскім інстытуце гігіены. Ён жа з'яўляецца падвопытным матэрыялам у медыцынскіх даследаваннях шведскіх вучоных. Карыстаюцца ім і іншыя навукова-даследчыя інстытуты ў экалагічных, фізіялагічных і мікрабіялагічных даследаваннях. Белавежская цёмная палёўка споўніла вялікую паслугу пры вывучэнні вельмі небяспечнай хваробы — энцэфаліту (вясенне-летняга запалення мозгу), што атакуе людзей у багністых вільготных мясцовасцях, між іншым і ў Белавежы. Англійскія вучоныя на гэтым звярку вывелі новую прышчэпку супраць сухотаў, а Польскі інстытут гігіены праводзіць на ім вірусалагічныя даследаванні. На стэповым лемінгу праводзяцца даследаванні над вывучэннем некаторых відаў рака і шукаюцца спосабы іх лячэння. У гэтай галіне асабліва многа зроблена ў Інстытуце эксперыментальнай і клінічнай анкалогіі ў Маскве. Але ўсё сказанае — гэта толькі пачатак кар'еры белавежскіх мышэй.



**Стэповы лемінг (стэповая пяструшка).**

У падвальным памяшканні белавежскага Навукова-даследчага інстытута млекакормячых сотні спецыяльных металічных клетак, а ў іх каля трох тысяч мышэй. Работніцы інстытута мгр **Анна Бухальчык** і тэхнік **Анна Байко,** знаёмяць мяне з гэтым мышыным царствам, што нястомна шамоціцца і папіскваe. А. Бухальчык вымае іх далікатна з клетак, пяшчотна гладзіць па мяккім футры, расказвае пра мышыныя норавы і розныя цікавыя з імі здарэнні. І мы, хаця ніколі не былі прыхільнікамі мышэй, пад яе ўплывам пачынаем адчуваць сімпатыю да гэтых вёрткіх і мілавідных стварэнняў. Зрэшты, яны ж — нашыя памочнікі ў барацьбе супраць многіх хвароб.

**Мікалай Гайдук**

Фота **С. Бушко.**



 

## Усмешка ў даважку

На рагу вуліцы маладая прадаўшчыца гандлявала першымі памідорамі. Яна была пухленькая, невялічкая. Калі нахілялася над скрынкаю, каб набраць цудоўных пладоў, зусім хавалася за белым столікам. Затое ўсе бачылі яе прыгожы, прывабны тварык, калі яна выпроствалася і працавала каля вагаў. Яе зграбныя маленькія ручкі так і мільгалі, а на безыменным пальчыку гарэзна пабліскваў залаты пярсцёнак.

Кожнаму пакупніку прадаўшчыца ўсміхалася, на ружовых шчочках паказваліся сімпатычныя ямачкі.

У чарзе за сонечным дарам прыроды сталі амаль адны мужчыны. Мой сябра Іван Мяцельнік таптаўся перад самым столікам, хоць чарга яго яшчэ не падышла. Ён, мусіць, хацеў спадабацца прыгажуні.

Нарэшце, падышла чарга Мяцельніка.

— Падумаць толькі, маладая, а якая ранняя. Колькі чалавек, столькі недаважак. І ўсе бачаць, маўчаць і згаджаюцца! — нехта сказаў за маімі плячамі.

А дзяўчына спрытна важыла, спрытна брала грошы і прывабна ўсміхалася!

— Вам колькі, грамадзянін? — звярнулася яна да Івана Мяцельніка. — Кілаграм?

— Так-так, кілаграм...

І тут іх погляды сустрэліся, Іван часта задыхаў, пераміналася з нагі на нагу. А яна, як ні ў чым не бывала, набрала памідораў, паклала на вагі і таксама... недаважыла.

— Калі ласка, шэсцьдзесят злотых.

Я таксама не заўважыў, якую недаважку зрабіла мне прыгажуня, таму што любаваўся чароўнай усмешкай дзяўчыны. Спахапіўся толькі тады, калі прыйшоў дадому: 3 тае пары мы з сябрам Іванам Мяцельнікам прытрымліваемся такога правіла: чым прыгажэй усмешка ў прадаўшчыцы — тым больш уважліва сочым за вагамі.

**І. Вярбіцкі.**

*ЧАГО У ЖЫЦЦІ НЕ БЫВАЕ!*



*— Яшчэ тры раўнды — і хопіць!*

### ДЗІЎНА

— Дзіўна, але я дзесьці ўжо бачыў ваш твар.

— Сапраўды дзіўна, я ж заўсёды нашу яго з сабою.

### СЛОВЫ

— Карл, што я чую? Што ты вучыш нашага папугая?

— Я, мама, проста пералічваю яму тыя словы, якія ён не павінен вымаўляць.






### ПАМЫЛКА

Сустрэліся два сябры.

— У цябе сумны выгляд. Якія-небудзь непрыемнасці?

— Так, Янка. Учора мы былі ў адной кампаніі і здорава выпілі. Калі ўсе пачалі разыходзіцца, я адвёз Сцяпана дамоў і палажыў яго ў ложка так асцярожна, што жонка нават не пачула.

— Ну і што? Ты паступіў як сапраўдны таварыш.

— Так... але сёння мне сказалі, што Сцяпан яшчэ пазаўчора выехаў у камандзіроўку.

### ПАЙШЛА КУРКА ДА ЛІСАЧКІ

Запрашала ліска курку
Да сябе ў госці:
— Выйдзі, цыпка, за рэчаньку,
За кляновы масцік.
А я цябе пачастую
Грэчкай і пшаніцай,
За гарою з крынічанькі
Напаю вадзіцай.
Падмяла я сцяжыначкі,
Падмяла дарожкі.
Ідзі, курка, ступай смела,
Не наколеш ножкі.
Разаслана на ўзгорачку
Мяккая салома,
Ты ж у мяне заначуеш
Куды лепш, чым дома.
Пайшла курка да лісачкі
За кляновы масцік.
Засталіся ад курачкі
Косточкі ды хвосцік.

**Станіслаў Шушкевіч**

### ЗВЫЧАЙ

— Татка, а чаму маладыя і маладая трымаюцца за рукі, калі ідуць да шлюбу?

— Такі звычай, сыночак. Баксёры перад боем таксама падаюць адзін другому рукі.

### ПАХВАЛІЛА

З размовы двух сябровак.

— У цябе сапраўды цудоўны густ. Твая сукенка з кожным годам падабаецца мне ўсё больш і больш.




### ВЕЧНЫ ДАЎЖНІК

У летнюю спякоту коні, што пасвіліся на выгане, без перапынку махаюць галовамі. Бывшчам у кагосьці прабачэння просяць.

Расказваюць пра гэта наступнае.

Калісьці ўся жывёла не мела хвастоў. Тады было аб'яўлена, што ходзячым, ляжачым і поўзаючым будуць хвасты прадаваць.

Сабралася вялікая чарга. Кожны хацеў найпрыгажэйшы хвост купіць. Конь быў адным з першых у той чарзе. Аблюбаваў сабе хвост доўгі, пышны. А грошай, каб выкупіць, не хапіла. Ён да авадня: „Пазыч, браце, грошай". Авадзень, які стаяў апошнім, бачыў, што яму хваста не дастанецца, і ахвотна пазычыў.

Толькі конь хутка забыў пра пазыку. Вось авадзень і нагадаў яму ўлетку:

— Прабач, браце, — ківае галавой конь. — Аддам, далібог, аддам.

І так каторы век...

— Шырэй локці! — камандавалі ногі.

— Трагедыя ачышчае! — казаў бандыт, выварочваючы кішэні праходжага.

### ДОБРАЕ СЛОВА

Памёр самы злаславы чалавек у мястэчку. На могільніку ніхто не хацеў сказаць аб ім ніводнага добрага слова. Арганізатар пахавальнай цырымоніі спытаў:

— Няўжо ніхто не скажа хоць аднаго добрага слова аб нябожчыку?

Тады наперад выступіў цырульнік і сказаў:

— Яго было лёгка галіць. У яго была добрая скура...

### ПАДКАЗАЎ

Хлопчык з горада прыехаў на вёску. Бабуля скардзіцца.

— Што здарылася з пеўнем? Вось ужо тры дні не кукарэкае!

— А ты не забыла накруціць, бабуля? — пытае ўнук.



*— Паедзь па гарэлку — усё роўна ў цябе ўжо правы адабралі...*



*— Пацвярдзі ты ёй, на прамілы Бог, што ў мяне жонка і двое дзяцей.*

### ЗДАГАДЛІВЫ

— Кватэра ў вас, відаць, вельмі цесная?

— Так, але як вы гэта даведаліся?

— Ваш сабачка махае хвастом уверх-уніз, а не ў бакі.

### У ПАШПАРТНЫМ БЮРО

— У вас ёсць асаблівыя прыкметы знешнасці?

— А гэта неабходна ўказваць?

— Так, тут ёсць такая графа.

— Тады запішыце, што я ўмею варушыць вушамі.

### БЕДНЫ

— Мама, дай мне франк.

— Для чаго табе, мой хлопчык?

— Каб аддаць яго аднаму беднаму чалавеку, які крычыць на вуглу вуліцы.

Маці, вельмі задаволеная дабратой свайго сына, дала яму грошы і спытала:

— А чаму ж крычыць гэты чалавек?

— Ён прадае марожанае.

*—Наогул я да заапарку прызвычаіўся, вось толькі іклы давялося мадэрнізаваць.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Васіля Краўчука з Вроцлава змяшчаем песню*

## Ой, полна, полна коробушка

**Слова Н. Некрасова,**
**Музыка народная**

„Ой полна, полна коробушка,
Есть и ситец и парча.
Пожалей, моя зазнобушка,
Молодецкого плеча!
Выйди, выйди в рожь высокую!
Там до ночки погожу,
А завижу черноокую,
Все товары разложу".
Вот настала ночь туманная,
Ждет удалый молодец.
Чу! Идет! Пришла желанная.
Продает товар купец.
Катя бережно торгуется,
Все боится передать.
Парень с девицей целуется,
Просит цену набавлять...
„Цены сам платил не малые,
Не торгуйся, не скупись:
Подставляй-ка губки алые,
Ближе к милому садись!"
Знает только ночь глубокая,
Как поладили они.
Распрямись ты, рожь высокая,
Тайну свято сохрани!
„Ой, легка, легка, коробушка,
Плеч не режет ремешок,
А всего взяла зазнобушка
Бирюзовый перстенек.
Дал ей ситцу штуку целую,
Ленту алую для кос,
Поясок — рубаху белую
Подпоясать в сенокос...
Все поклала ненаглядная
В короб, кроме перстенька:
„Не хочу ходить нарядная
Без сердечного дружка!"

### МІНІВЕРШЫ

### ШТО ПРЫНЕСЦІ

— Што прынесці Васільку?
— Прынясі мне кісяльку.
— А мо хочаш мёдзіку?
Смачны мёд салодзенькі.
— Не хачу! — крычыць малы.
— Ну, чаму ж такі ты злы?
Мо варэнне будзеш есці?
— Не!
— То што ж табе прынесці?

**Пятро Сушко**




### ДОЎГАЯ БЯССОННІЦА

Мінула ўжо тры гады з таго часу, як Абдулджабар Біголі, жыхар іранскага горада Касрэ-Шырын, не ведае, што такое сон, піша газета „Этэлаат". 26-гадовы служачы таможні гаворыць, што стан абсалютнай бяссонніцы наступіў у яго раптоўна, і за ўвесь гэты час ён ні на мінуту не заплюшчыў вачэй.

Прадпрыймальны начальнік таможні, дзе працуе Біголі, даведаўшыся пра гэта, адразу ж прапанаваў яму працаваць яшчэ і начным вартаўніком.

### ІНДЫЙСКАЯ КАРЫДА

Аб карыдзе ведаюць усе. Але наўрад ці многія чулі аб „джалікату". А „джалікату", індыйскаму варыянту карыды, больш чым два тысячагоддзі. Яна, праўда, праходзіць без маляўнічых касцюмаў, без гмахаў трыбун — амфітэатраў з тысячамі гледачоў, фанфар і аншлагаў. Касцюм індыйскага матадора — майка і кавалак саматканага палатна вакол бёдраў. Пляцоўка для „джалікату" — адгароджаная плотам пустэча. Гледачы — вясковыя жыхары.

Але „джалікату" такая ж прывабная і небяспечная, як і карыда, столькі ж многа мужнасці, умення, спрыту і знаходлівасці трэба праявіць тут, каб выйсці пераможцам у сутычцы з раззлаваным быком.

Сэнс індыйскай карыды такі ж просты, як і яе атрыбуты. Матадор павінен кінуцца на бягучага быка, схапіць яго за рогі і пратрымацца на ім каля 100 метраў.

Захапленне і павага аднавяскоўцаў — узнагарода смельчаку. А самы ўдачлівы матадор-халасцяк атрымлівае права выбраць у нявесты самую прыгожую дзяўчыну вёскі.




*Аптыміст адрозніваецца ад песіміста тым, што першы бачыць у жолудзе дуб, а другі — пілавінне.*